*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 34(368)** **2 ВЕРАСНЯ 1998 г.**



**28 жніўня споўнілася 62 гады Старшыні Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны Генадзю Бураўкіну.**

**Сакратарыят ТБМ і газета "Наша слова" сардэчна віншуюць Генадзя Мікалаевіча і жадаюць сілаў і мужнасці ў нашым бясконцым змаганні за Беларусь.**

### Навіны СакратарыятаТБМ

24 жніўня Міністэртва юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала змены ў Статуце ТБМ. Пасведчанне № 01149. Змены былі ўнесены Рэспубліканскай Радай 23 ліпеня 1998 года. Тэкст Статута ТБМ са зменамі будзе надрукаваны ў адным з бліжэйшых нумароў газеты "Наша слова".

Менскі гарвыканкам забараніў правядзенне мітынга ТБМ у абарону беларускай мовы 31 жніўня. Фармальная прычына: заяўка пададзена на дзень пазней, чым належала. Сакратарыят ТБМ паўторна падаў заяўку на мітынг на 16 верасня. Іншыя раней аб'яўленыя мерапрыемствы ТБМ пакуль былі дазволены.

Сакратарыят ТБМ зарэгістраваў Касцюковіцкую арганізацыю ТБМ.

*На Беларусі Бог жыве ...*
*У.Караткевіч*

А дзе ж той Бог, што тут жыве?
А дзе ж яго святая сіла?
Няўжо ж яшчэ і той крыві,
Што пралілася, не хапіла,

Каб зразумець сваю зямлю,
Каб палюбіць? Напэўна мала.
Ну дык няўжо дарма жылі
І Караткевіч, і Купала?

Ды не, пакуль жывуць з табой
Твае паданні, казкі, песні
На мове велічнай тваёй,
Ты не памрэш, ты зноў ўваскрэснеш
Ты сто разоў яшчэ ўваскрэснеш
З агню, святая Беларусь!

**Вольга Чарнышова, 13 гадоў.**
**г.Менск,**

## Суд над "Нашай Нівай" — гэта суд над беларускай мовай!

У апошні час у нашай краіне ўзмацніўся наступ антыдэмакратычных, антыбеларускіх сілаў на ўсялякія праявы дэмакратыі, нацыянальнай свядомасці і на асноўныя правы чалавека.

У гэтым рэчышчы можна разглядаць двухгадовы наступ на адзіны ў краіне беларускамоўны ліцэй і спробы зачыніць газету "Наша Ніва". Прычым повадам для чарговай забароны недзяржаўнай дэмакратычнай газеты з'яўляецца класічны варыянт беларускага правапісу, паводле якога ў пачатку ХХ стагоддзя пісалі Максім Багдановіч, Якуб Колас і Янка Купала. З мэтай поўнай русіфікацыі Беларусі бальшавікі двойчы ў 1933 і 1957 г.г. скажалі яго правілы на тэрыторыі БССР. Аднак за межамі савецкай Беларусі гэты правапіс паспяхова ўжываўся, і ўжываецца па сённяшні дзень.

Выканкам Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады выказвае рашучы пратэст і лічыць, што прэтэнзіі сённяшняй улады да мовы "Нашай Нівы" з'яўляюцца грубым парушэннем канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах да якіх далучылася і Беларусь. Забарона прыватнай, недзяржаўнай газеце, яе чытачам і падпісчыкам карыстацца абранай імі формай роднай мовы з'яўляецца яскравым прыкладам чарговага парушэння свабоды слова і права на атрыманне інфармацыі у нашай краіне.

Грамада заклікае ўсе дэмакратычныя партыі і рухі Беларусі, а таксама міжнародную супольнасць выказаць рашучы пратэст супраць гэтых дзеянняў беларускага ўрада.

*Выканкам БСДГ.*

## Паэты сустрэліся з настаўнікамі

24 жніўня ў зале паседжанняў Лідскага райвыканкама адбылася сустрэча настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Лідскага раёна з вядомымі паэтамі, гарадзенцамі, Данутай Бічэль-Загнетавай і Алесем Чобатам.

Пасля сустрэчы, хто жадаў, мог набыць кнігі паэтаў з аўтографамі аўтараў. Лепшым настаўнікам Лідчыны былі падараваныя кнігі, касеты, фотаздымкі за кошт Лідскай Філіі Таварыства Беларускай школы.

25 жніўня Данута Бічэль-Загнетава сустракалася з супрацоўнікамі ААТ "Лідхарчканцэнтраты".

Госці Лідчыны атрымалі на памяць аб сустрэчы кнігі, кветкі, фотаздымкі.

Гэта ўжо не першая сустрэча лідзян у апошні час са слыннымі людзьмі нашай краіны. Нядаўна жыхары Ліды і ваколіцаў змаглі паслухаць канцэрты, а пасля і пагутарыць з вядомым беларускім бардам Віктарам Шалкевічам, а таксама Лявонам Вольскім, салістам групы "NRM".

Такія сустрэчы будуць адбывацца і надалей. Так 9 верасня ў 18.00 у Лідскім Доме культуры адбудзецца сустрэча гараджан з Валянцінай Коўтун і Хрысцінай Лялько. Наступныя сустрэчы сплянаваны на 23 верасня, 14 і 21 кастрычніка, 4 і 18 лістапада, 2 і 16 снежня. На гэтых сустрэчах чакаюцца У. Арлоў, Г. Бураўкін, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В. Іпатава, У. Някляеў і іншыя знакамітыя дзеячы беларускай культуры і літаратуры.

*Лілея Сазанавец.*

### Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Акайчык Уладзімір, Аўстралія | - 150 дал. ЗША |
| Дзядова Алена, Навагрвдак | - 200 000 руб |
| Валошчык Мікола, Белаазёрск | - 200 000 руб |
| Казмерчык Ігар, Орша | - 41 600 руб |
| Саракваш Якаў, Баранавічы | - 300 000 руб |
| Сярова Зоя, Менск | - 500 000 руб |
| Гаруновіч Лізавета, Менск | - 1 000 000 руб |
| Дабравольская Тацяна, Бабруйск | - 1000 000 руб |
| Лесанюк Мікола, Менск | - 450 000 руб |
| Катлер, Баранавічы | - 200 000 руб |
| Жывалеўскі, Гарадзенскі р-н | - 1 000 000 руб |

## 8 верасня — Дзень беларускай вайсковай славы



*Старадаўняй*
*Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць,*
*не стрымаць.*
*Максім Багдановіч.*

**Наша краіна на працягу стагоддзяў вяла барацьбу за сваю незалежнасць. Мужныя рыцары беларускай зямлі ў жорсткіх бітвах адстойвалі свабоды свайго народа. Доўгі час Беларуска-Літоўскай дзяржаве даводзілася адбіваць напады свайго ўсходняга суседа — Маскоўскага вялікага княства, якое ўжо ад канца XV стагоддзя намагалася захапіць Беларусь. Адной з такіх войнаў была вайна 1512 - 1522 гадоў.**

Улетку 1514 г. маскоўскаму войску ўдалося захапіць Смаленск, які капітуляваў з-за здрады князя Міхаіла Львовіча Глінскага (ён угаварыў смалян капітуляваць, бо вялікі князь маскоўскі Васіль III абяцаў яму Смаленскае княства і, зразумела, абяцанне не выканаў).

Пасля капітуляцыі Смаленска Васіль III накіраваў у глыбіню Беларусі 80-тысячную конніцу з баяраў, дваранаў і "дзяцей баярскіх" (вайскова-служылых людзей). На чале войска стаялі галоўныя ваяводы — баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў - Голіца (продак князёў Галіцыных).

Насустрач ім выступіла 30-тысячнае беларускае войска, у складзе якога было 4 тысячы польскіх вершнікаў. Галоўнакамандуючым быў найвышэйшы гетман князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, дасведчаны палкаводзец і мужны рыцар. Асобныя аддзелы ўзначальвалі Юры Радзівіл і Іван Сапега.

І.Чаляднін выбраў для бітвы вялікае поле на левым беразе Дняпра, паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны. К. Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой. 7 верасня і ў ноч на 8 верасня ён пераправіў сваё войска з правага на левы бераг, конніцу ўброд, а пяхоту і гарматы па двух пантонных мастах.

Бітва на беразе Дняпра адбылася 8 верасня 1514 г. У час яе беларускае войска выступала пад дзяржаўным сцягам з выявай Пагоні, з аднаго боку, і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам — з другога.

На карціне "Бітва пад Оршай" (намалявана каля 1520г.) відаць, што ў кожнага з беларускіх коннікаў у руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіла чырвоная палоска, якая бліжэй да трохца была перакрыжавана другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік бел-чырвона-белага сцяга.

Перад бітвай малебен за перамогу адслужылі праваслаўныя святары: большасць воінаў і сам К. Астрожскі былі праваслаўнымі. Маліліся і ксяндзы, бо ў войску было нямала і католікаў. З невялікай прамовай па-беларуску выступіў гетман К. Астрожскі. Ён нагадаў рыцарам пра слаўных баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі і абараняць Бацькаўшчыну.

Пачалася жорсткая бітва. Атаку пачаў полк правай рукі Маскоўскага войска на чале з М.Булгакавым-Голіцай. Конніца К. Астрожскага контратакавала. Урэшце конніца Булгакава была разбіта і пачала адступаць.

Потым і І.Чаляднін павёў свае палкі ў атаку. Раптам князь К.Астрожскі загадаў сваім вершнікам адступаць. Упэўнены ў блізкай перамозе, маючы перавагу ў воінах, Чаляднін кінуў у атаку ўсе свае сілы. Здавалася, што маскоўскія коннікі перамагаюць. Але ў гэты момант, непадалёк ад лесу (ужо ля самага берага Дняпра), конніца Астрожскага нечакана для ворагаў падзялілася на дзве часткі, якія зманеўравалі ў працілеглых бакі. Уся бязладная маса маскоўскіх коннікаў апынулася перад пяхотай і гарматамі, якія ўжо падрыхтаваліся да моцнага залпу. Пачаўся расстрэл маскоўскай конніцы. Стралялі і па пярэдніх, і па задніх шэрагах. Гэта выклікала паніку. Уцякалі ўжо рэшткі абодвух флангаў маскоўскага войска. Адны — у лясы, другія — у балоты. Шмат уцекачоў было забіта пад час пагоні, частка патанула ў Крапіўне і Дняпры.

Паводле летапісаў і звестак расійскіх гісторыкаў М.М.Карамзіна і С.М. Салаўёва, маскоўскае войска страціла тады 40 тысяч чалавек. У палон трапілі І.Чаляднін, М.Булгакаў-Голіца і яшчэ 8 ваяводаў, 17 іншых военачальнікаў, 2 тысячы дзяцей баярскіх і больш за 2 тысячы воінаў.

Перамога ў бітве пад Оршай дала магчымасць вызваліць Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў. Пасля гэтай бітвы некалькі гадоў не было ўварванняў, рабаванняў і знішчэнняў на тэрыторыі Беларусі.

Аршанская бітва 8 верасня 1514 г. была адной з буйнейшых бітваў на тэрыторыі Еўропы ў пачатку XVI стагоддзя. Яна пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Яе адлюстравалі ўсе тагачасныя, у тым ліку і расейскія, летапісы і хронікі. З таго часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу пад Оршай "Ой, у нядзельку параненька ўзышло сонца хмарненька...", якую цяпер спяваюць беларускія барды.

Аршанская бітва з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі, прыкладам перамогі нашых рыцараў над амаль утрая большым войскам ворага. Яна ўпісваецца ў агульны шэраг герайчных перамог беларускага войска на працягу некалькіх стагоддзяў падчас існавання самастойнай, незалежнай і моцнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы. 8 верасня — гэта Дзень беларускай вайсковай славы, дзень, які кожны год адзначаюць беларускія патрыёты.

*Анатоль Грыцкевіч,*
*доктар гістарычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі(Масква)*

